№ 43 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопіс

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацii і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.



№ 43 (239). Год III. Вільня, 28 мая 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### 27 мая.

**Заходні тэатр:**

Пры Мэтэрін на разьведках узяты ў палон англічане. Артылерыйская дзейльнасць павялічылася папалудні. Непрыяцельскі агонь узмацаваўся ў ваколіцах Кэмэль, на паўночным беразі Ліс, між Аррас і Альбэр і на заходнім беразі Авр.

---

КІЕЎ. Газэты друкуюць ноту ўкраінскаму ўраду ад дэлегацiі з Дону, у каторай апавешчаецца, што палудзенна-заходняя фэдэрацiі Донскіх, Кубанскіх, Терскіх і Астраханскіх казакоў, горных плямён паўночнага Каўказу, стэповых плямён палудзенна-усходняй Расеі, Стаўрапольскай і Чорнаморскай губэрняў і Царыцынскага павету не належыць да складу Расейскай дзержавы, знаходзіцца ў стане вайны з няпрызнаным савецкім урадам і будзе бараніцца усімі сіламі. Усе законы, выдаваные ад дня рэволюцыі ў лютым 1917 году, апавешчаюцца не маючымі сілы. Зямельны закон у межах новай фэдэрацыі загадывае прымусовае адбіраньне зямлі вышэй назначэнай меры ў адных руках. Казакоў прызываюць добра аднасіцца да нямецкіх войск, як і да сваіх уласных.

БЭРЛІН. Украінскае прэсбюро наказывае, што соцыял-рэволюцыянеры пастанавілі адказацца ад опозыцыі процiў ураду Скоропадзкага.

СОФІЯ (Б.Т.А.). У дзень сьвята сьв. Кірылы і Мефодзія боўгарскіе ўласьці атрымалі ад жыхараў Добруджы чысьленые тэлеграмы з дамаганьнем, каб уся Добруджэ была далучэна да Баўгары.

ВЕНА. (Korr. B.). Прэзыдзіумы трох сярэдня-эўропэйскіх эканомічных саюзаў на супольным заседаньні прыняли рэзолюцію, выказываючы здаволеньне згодлівымі выступленьнямі цэнтральных дзержаў у эканомічных справах пры падпісаньні эканомічных умоў з Украінай і Расеей.

БЭРЛІН. Расейскі пасол у Бэрліне, Іоффэ, падаў нямецкаму паслу ноту, апавешчаючы, што нямецкую ноту аб адлучэньні Эстляндзіі і Ліфляндзіі ён перэсылае ў Маскву, але не прызнае гэтым самым незалежнасьці гэтых зямель.

МАСКВА (П.Т.А.). 24.V. Савецкі ўрад паслаў у Бэрлін іскровую тэлеграму, ў каторай гаворыцца:

„Нямецкі пасол, гр. Мірбах, паведаміў нас бытцым 11 мая батарэі крэпасьці Іно стрэлялі ў фінляндзкіе войскі. Пасьля дозьледу можэм заявіць, што гэта нязгодліва с праўдай. Крэпасць Іно перад яе ачысткай намі ўзорвана, ды гэта, відаць, было прычынай памянутага неправільнага заяўленьня“.

ВЕНА (Корр. Б.). 25 мая. Міністэр заграпічных спраў, гр. Бурыян, запрасіў да сябе сягоньня на нараду прэзыдзіум польскага клюбу. Гр. Бурыян заявіў, што ў часе апошніх перэгавораў у нямецкай глаўнай кватэры польская справа не была разьвязана. Гр. Бурыян у найбліжэйшых днёх паедзе ў Бэрлін, дзе маюць адбывацца нарады аб польскай справе.

ДІУСЭЛЬДОРФ. На Заседаньні нямецкай «партыі Бацькаўшчыны» вялікі адмірал Тірпіц між іншым сказаў:

„Развязка сусьветнай вайны наступіць толькі на заходзе. Дабіцца для сябе роўных з Англіей правоў у сусьветнай гаспадарцы мы можэм толькі сілай».

БЭРЛІН. Між дэпутатамі с прычыны новых выбараў прэзыдіума Рэйхстагу ёсць цумка высунуць напярод кандыдатуру дзьвёх найдужэйшых партый: Эрэнбаха—ад клерыкальнага цэнтру і Шэйдэмана—ад умяркаваных соцыял-дэмакратаў.

ВАШЫНГТОН. Саюзьнікі прышлі да згоды аб палітыцы да Расеі. Саюзьнікі пастанавілі не мешацца да ўнутрэных спраў Расеі і запрапанаваць ёй помач падвозам і іншую.

МЮНХЭН (В.Т.Б.). 26. V. Па ўсей Бавары урачыста сьвяткавалі сталетніе ўгодкі баварскай констытуціі.

ВЕНА. **Урадова.** 25.V. Пасьля вялікага артылерыйскага і міннага агню італьянцы атакавалі нашые пазыцыі на паўдня ад праходу Тоннэль і адсунулі трохі нашую лінію на вузкім адрэзку, але пасьля былі задзержаны.

БЭРЛІН (**Урадова**). Новые ўдачы падводных лодак навакол Італіі 5 параходаў ёмкасьцю разам 27.000 тонн.

8 мая у поясе блокады навакол Азорскіх астравоў адна наша падводная лодка затапіла англіцкі транспорт „Nirpra“ ёмкасьцю 7.640 тонн з англіцкім абрадам каралеры.

ЛОНДОН (В.Т.Б.). Адміралцейства апавешчае:

11 мая адна наша падводная лодка на вышыні мыса сьв. Вінцэнта затапіла нямецкі падводны крэйсэр; людзі з яго пагіблі ўсе.

**Увага В.Т.Б.:** С прычыны доўгай нябытнасьці аднаго нашага падводнага крэйсэра трэба лічыць англіцкае апавешчэньне падобным да праўды.

---

## Раскрытые карты.

«Прынімаючы пад увагу:

1) што бытнасць падтрымліваных „антантай“ дзеля яе палітычных мэт чужацкіх польскіх войск на адвечна Беларускіх землях можэ ў будучыне аказацца прэцэдэнтам для прылучэньня гэтых зямель да Польскага каралеўства, або дзеля дамаганьня тэрыторыяльных компэнсацій у постаці беларускага Беластоцкага округа, сумежнага с Польшчай;

2) што, абвешчаючы прылучэньне закордоннай Беларусі да Польскай монархіi, польскіе войскі выяўляюць гэтак захватные тэндэнціі на беларускіе землі, і іх чыннасць з гэтага пагляду перастае ўжо быць самаабаронай палякоў ад большэвіцкай анархіi і прыбірае характэр вялізнай палітычнай авантуры, каторая йдзе супроць жыцьцёвых інтэрэсаў беларускага народу і супроць яго жаданьня незалежнасьці;

— — — — — — — — —
— — — — — — — — —

Беларуская Рада, аб'яўляючы разарванай зьвязь між Беларусьсю і Расеей, высказывае свае дамаганьні:

1) каб польскіе войскі чым хутчэй выйшлі з беларускіх зямель, на каторых беларускіе краёвые организацiі возьмуць пад сваю апекуменьне і жыцьцё жыхароў;

2) — — — — — — —

3) каб сумежные с Польшчай спрадвечные беларускіе землі (Беласток, Горадня) ні ў якім здарэньні не былі вылучэны з рэшты краю дзеля прылучэньня да Польскага Каралеўства“.

— — — — — — — — —

**Гэтак**, між іншым, заяўляла Беларуская Рада ў Вільні ў рэзолюцiі свяей, прынятай на пленарным заседаньні 18 лютага 1918 году. — за тры дні перад заняцьцём Менска нямецкім войскам. А далейшые здарэньні паказалі, як добра беларусы ацанілі утварыўшаеся палітычнае палажэньне і як добра знаюць палякоў і іх палітычные пляны.

У тэй часьці Беларусі, дзе стаіць польскае войска, палякі стараюцца завясьці чыста польскае упраўленьне. Вайсковые ўласьці утварылі польскі цывільны урад, каторы на чыста беларускай зямлі организуе сець польскіх школ, назначае польскіх чыноўнікаў, урэшці — заводзіць польскіе суды. Гэта — бязспорные акты нацыональнага гвалту над беларусамі, гвалту, раўназначнага гвалтам старога масkоўскага ураду. А аб мэці гэткай палітыкі ня можэ быць споркі, і яна запраўды становіць „вялізарную авантуру“.

Але гэтага мала: «Tilsiter Allg. Ztg.» у № 118 з 23 мая 1918 г. у карэспандэнціі з Варшавы пад загалоўкам «Die polnische Frage» гэтак апісывае сучаснае палітычнае становішча Польшчы:

«Абнімаючы навят малые групы актывістаў, усе яны гатовы на ўзаемную „папраўку граніц“. Князь Ян Радзівілл заявіў: «Ведама, Польшча пры некаторых варунках павінна будзе адрачыся ад Галічыны, але спадзяецца атрымаць за гэта компэнсацii. Іх можна знайсьці ў Беласточчыне і Гродзеншчыне, дзе перэважывае польскае насяленьне. У будучыне яна жджэ такжэ забаспечэньня ад Расеі, бо ўсё яшчэ трэба рахавацца з магчымасьцю новай вайны. Гэткае забаспечэньне далобы устройства аўтаномнай Беларусі, натуральнымі граніцамі каторай на усходзі павінны быць Дзьвіна і Днепр. Новая дзержава, як і Балтыцкіе землі, маглабы быць прынята пад апеку Нямеччыны, або пад супольную апеку Нямеччыны і Аўстрыі. С прычыны таго, што палякі маюць у Беларусі свае эканомічные інтэрэсы і каля 30% дворных зямель належыць да палякоў, гэты край можна аб'явіць у сфэры польскіх інтэрэсаў. Заявы польскага міністра-прэзыдэнта паказваюць, што палякі ня гэтак лёгка прыстануць на не раз высказыванае ў Нямеччыне жаданьне, каб Польшча прыняла учасьце ў пакрыцьці ваенных расходаў. Варунак гэты станавіў бы зварот вялікіх страт, якіе Польшча мела ад вайны».

Вось, і вылазіць шыла з меха. Палякі вядуць торг беларускай зямлёй, але гэта — торг скурай мядзьведзя, каторы яшчэ гуляе на волі ў лесе. Тут пускаецца ў ход і «адрачэньне» ад Галічыны, якая дагэтуль як вядома, не перэставала належаць да Аўстрыі; і «польскасць» беластоцкіх і гародненскіх беларусаў, каторые с палякамі маюць толькі тое супольнае, што часць іх ходзіць маліцца ў той самы касьцёл, дзе моляцца і палякі-каталікі; і «польскіе эканомічные інтэрэсы“, бо польскіе паны дзержаць у сваіх руках вялікіе зямельные абшары ды хацелібы адабраць ад беларускіх селян і тое, што ў іх яшчэ асталося, дзеля польскай колонізацыі; і ўсяго гэтага палякі жадаюць не дарма: яны гатовы заплаціць за гэта, прынімаючы на сябе пакрыцце часьці ваенных выдаткаў Нямеччыны! А што суляць яны беларусам?

А суляць яны нам „аўтаномію“ пад цяжкай рукой польскіх паноў — суляць выцісканьне ўсіх сокаў беларускага народу, каб мець магчымасць выплаціць прыпадаючую на Польшчу часць нямецкіх ваенных выдаткаў і атрымаць яшчэ добры барыш...

Пакуль усё гэта тлумачылі людзям мы, палякі пярэчылі нашым заявам, вінавацючы нас у «выдумках». Цяпер прамовілі кіраўнічые кругі Польскага Каралеўства, — і мейсца для сумлеваньня больш німа. Хто мае вочы, можэ бачыць, якую долю хочэ нам прыгатаваць «братні» польскі народ.

Ды не дажджэ гэтага: для Беларусі пачалася ўжо новая эра не

